БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА



# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

19 мая 1994 г.
Чацвер
№ 53 (13770)
Кошт у розніцу 100 рублёў
Выдаецца з 1921 года




Малюе Віктар ДУБОВІК



## Кур'ер "ЧЗ"

### Магічная сямёрка

*Пакуль пад узмоцненай аховай міліцэйскіх нарадаў (каб пазбегнуць націску "збоку" на членаў Цэнтравыбаркама пры падліку галасоў і праверцы падпісных лістоў) працягваецца работа Цэнтральнай камісіі на выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, у сродкі масавай інфармацыі прасочваюцца папярэднія звесткі аб выніках прайшоўшага этапа выбарчай кампаніі. Яны даюць падставу зрабіць вывад: сама меней сем прэтэндэнтаў на пасаду заручыліся падтрымкай неабходнай колькасці грамадзян.*

Такім чынам, можна гаварыць аб "вялікай сямёрцы", якая мусіць трапіць у чарговы і, бадай, галоўны тур барацьбы. З глыбокай старажытнасці "7" — лічба магічная, і, як лічаць многія астролагі, філосафы, матэматыкі ды й "простыя" людзі, захоўвае ў сабе нейкі таямнічы, астральны сэнс. Хто ж яны — найбольш верагодныя прэтэндэнты на ўваходжанне ў сямёрку? Вячаслаў Кебіч, Зянон Пазьняк, Васіль Новікаў, Аляксандр Лукашэнка, Аляксандр Дубко, Станіслаў Шушкевіч, Генадзь Карпенка. Менавіта ў такім парадку паставілі прозвішчы ўяўных кандыдатаў расійскія інфармацыйныя агенцтвы.

Цікава, як суадносяцца з гэтым раскладам даныя беларускага маніторынгу. Сацыялагічныя выкладкі сведчаць аб наступным. Цяпер Вячаслава Кебіча падтрымліваюць 18,3 працэнта рэспандэнтаў, Аляксандра Лукашэнку — 17,1 працэнта. На трэцяй пазіцыі знаходзіцца лідэр камуністаў Васіль Новікаў, за якога (калі б выбары адбыліся сёння-заўтра) аддалі б свае галасы 6,7 працэнта грамадзян. Прычым, што трэба адзначыць асобна, ягоны рэйтынг расце. Нельга не ўлічваць і такі факт: прыблізна трэцяя частка з апытаных яшчэ не вызначылася ў сваіх прыхільнасцях, а больш як шаснаццаць працэнтаў беларусаў увогуле не збіраюцца браць удзел у выбарах. Дарэчы, адзін з цяпер ужо былых прэтэндэнтаў на прэзідэнцтва рэктар Беларускага камерцыйнага універсітэта кіравання Эдвард Ахрэм, не сабраўшы дастатковай колькасці галасоў у сваю падтрымку, выказаў меркаванне, што менавіта па прычыне абыякавасці значнай часткі насельніцтва да выбарчых урнаў можа прыйсці менш за палову ад агульнага спісачнага складу, а гэта паставіць выбары пад пагрозу зрыву.

**Якаў ЯСЭПКІН.**

### С.Багданкевіч удакладняе...

*У гутарцы з карэспандэнтам Белінфарма галоўны банкір рэспублікі падкрэсліў, што ў цэлым ён "за" аб'яднанне грашовых сістэм Беларусі і Расіі. А сумненню падвяргае толькі некаторыя ўмовы інтэграцыі і аб'яднання грашовых сістэм.*

Акрамя таго, у бліжэйшы час С.Багданкевіч мае намер сабраць прэс-канферэнцыю, каб канчаткова зняць усе пытанні і недагаворанасці.

**Кацярына ВЫСОЦКАЯ.**

### Патаннелі тэлевізары!

*Старшыня славутага беларускага вытворчага аб'яднання "Гарызонт" Аляксандр Санчукоўскі 15 мая падпісаў загад, згодна з якім зніжаны цэны на каляровыя тэлевізары чацвёртага пакалення, што выпускае гэтае прадпрыемства.*

Прадукцыя стане танней на 15—20 працэнтаў у выніку зніжэння мытных пошлін. Набыць тэлевізары можна ўжо ў гэтыя дні, але толькі ў фірменным гандлёвым доме "Гарызонт" і толькі грамадзянам Рэспублікі Беларусь. Гэтыя абмежаванні звязаны з магчымай спекуляцыяй ходкім таварам.

**Ул.інф.**

### У нас, аказваецца, ёсць будучыня

*Нядаўна Маладзечна наведала дэлегацыя Цэнтра маладзёжных абменаў Брытанскага савета на чале з пані Жызэль КІРБЕ.*

Савет вызначае маладзёжную палітыку Вялікабрытаніі, адказвае за вырашэнне ўсіх праблем у гэтай галіне. Госці пазнаёміліся з дзейнасцю аддзела па справах моладзі гарвыканкама, пабывалі ў савеце грамадскіх арганізацый, сацыяльна-псіхалагічнай службе, наведалі ПТВ № 21, клуб гісторыі флоту і судамадэліравання.

— Калі ў Беларусі,— сказала пані Кірбе,— усюды гэтак жа добра наладжана работа з моладдзю, дык у гэтай краіне ёсць будучыня.

Думаецца, што вынікам візіту лонданскай дэлегацыі будзе ўстанаўленне прамых кантактаў адпаведных структур дзвюх краін.

**Мікола КАПЫЛОВІЧ.**

### Прыватызацыя дайшла да Оршы

*Першы гарадскі аўкцыён па продажу аб'ектаў камунальнай уласнасці прайшоў нядаўна ў Оршы.*

У арэнду і ва ўласнасць да новых гаспадароў перайшлі магазіны, бюро паслуг, цырульні. У апошніх, дарэчы, на працягу 5 год павінен захавацца профіль дзейнасці. Аўкцыён прынёс у гарадскую казну звыш 800 мільёнаў рублёў, якія будуць выкарыстаны на сацыяльныя патрэбы.

**Яўген БРАЖЫЦКІ.**

### Будзем жыць з "годнасьцю"

*Палітра беларускага друку нядаўна пашырылася не толькі колькасна, але і тэматычна ды нават наменклатурна, калі з'явіўся штоквартальны часопіс Згуртавання беларускае шляхты "Годнасьць".*

Выданне гэтае больш элітарна-навуковае, чым папулярнае, але, бадай, прывабіць усіх, хто цікавіцца беларускай гісторыяй. Праўда, разам з тым, часопіс нельга апрыёрна назваць гістарычным, бо летапіс беларускіх шляхетных родаў цягнецца і сёння. І хіба ж не цікава даведацца, што сённяшнія Басяцкія паходзяць з-пад даўняга герба Барэйкаў, а старажытнаму роду Сыракомляў не чужыя і Вырвічы... Бо род і ягонае права на герб — гэта не толькі прозвішча, але і цэлае генеалагічнае дрэва.

Асобна хацелася б сказаць пра мастака, якому належыць аздоба выдання, — Максіма Капрана. Ягоныя густоўныя малюнкі беларускіх гербаў самі па сабе абуджаюць жывое зацікаўленне чытача. А ўвогуле часопіс міжволі прымушае забыць колішні кліч "выйшлі мы ўсе з народа" ды падумаць:"А мы асабіста мо таксама ж з нейкага роду?"

**Вітаўт МАРТЫНЕНКА.**

### Подых "Вясны–94"

*"Вясна–94" — такую назву далі традыцыйнай штогадовай выставе сваіх твораў прафесійныя мастакі Гродзеншчыны.*

Вядома ж, сённяшнія эканамічныя праблемы не маглі абысці абласное аддзяленне Саюза мастакоў. Ёсць яны і ў жывапісцаў, і ў скульптараў, і нават у славутых бярозаўскіх майстроў шкла, якія таксама прынялі ўдзел у выставе. Але да гледача аўтары выйшлі не са сваімі клопатамі, а з вынікамі творчага натхнення.

Дарэчы, уваход на выставу — бясплатны. Гэта яшчэ адзін падарунак мастакоў сваім прыхільнікам.

**Лілія АСТРАВЕЦКАЯ.**

### Знайсці работу за восем гадзін

*На Віцебскім заводзе радыёдэталей у калектыўным дагаворы прадугледжана дадатковая "льгота". Кожны, хто падпадае пад скарачэнне, мае права кожны тыдзень браць восем гадзін рабочага часу для пошуку новага месца работы.*

Зарплата за гэтыя восем гадзін не вылічваецца. Цікава, што вольнага часу на заводзе і так хапае: большасць вытворчых падраздзяленняў працуе па графіку трохдзённага тыдня.

**Уладзімір МІХНО.**

**Курсы валют на 18 мая:**

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 17200 | 17750 | 10300 | 10640 |
| "Пошук" | 17100 | — | 10200 | — |
| "Прыор" | 17000 | 17400 | 10100 | 10400 |

## ПРЭЗІДЭНЦКІ МАРАФОН: ПАЗІЦЫІ, ДУМКІ, МЕРКАВАННІ

### Запас трываласці дае надзею

□ **Вольга ШАЎКО, "ЧЗ"**

*У нацыянальным прэс–цэнтры адбылася прэс–канферэнцыя з членамі ініцыятыўнай групы па збору подпісаў грамадзян па вылучэнню кандыдатам у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь Вячаслава КЕБІЧА.*

Паводле папярэдніх вынікаў, у падтрымку вылучэння кандыдатам у прэзідэнты В.Кебіча сабрана больш як 400 тысяч подпісаў. Прычым, зазначыў кіраўнік групы падтрымкі Аляксандр Санчукоўскі, іх ставілі практычна прадстаўнікі ўсіх сацыяльных слаёў насельніцтва. У пяці рэгіёнах рэспублікі В.Кебіч быў яўным лідэрам, у двух займаў другое месца. Прэм'ер-міністру выказваюць сёння падтрымку такія буйныя арганізацыі як Беларуская навукова-прамысловая асацыяцыя, Саюз прадпрымальнікаў, Беларускі саюз прадпрымальнікаў і арандатараў, рух у падтрымку дэмрэформ.

На прэс-канферэнцыі было падкрэслена, што ў ходзе першага этапа прэзідэнцкага марафона група падтрымкі строга прытрымлівалася літары закону. Дапускаючы, што пры праверцы падпісных лістоў выбарчымі камісіямі могуць быць вынайдзены пэўныя парушэнні, прыхільнікі кандыдатуры прэм'ер-міністра ўсё ж лічаць, што гэта не перашкодзіць весці барацьбу за прэзідэнцкае крэсла для свайго кандыдата далей, бо запас трываласці, гарантаваны сабранымі подпісамі, у іх вялікі.

Згодна з Законам аб выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, кандыдат у прэзідэнты можа быць вылучаны таксама дэпутатамі Вярхоўнага Савета ў колькасці не менш чым 70 чалавек. За Вячаслава Кебіча падпісалася больш як 200 дэпутатаў. Сярод тых, хто падтрымаў гэта вылучэнне,— прадстаўнікі розных дэпутацкіх фракцый, у тым ліку: група "Саюз", Народны Рух Беларусі, абсалютная большасць дэпутатаў прамыслоўцаў і аграрыяў, воіны-інтэрнацыяналісты, дэпутаты-ветэраны Вялікай Айчыннай вайны. Тэрытарыяльна гэтае размеркаванне парламенцкіх сімпатый выглядае так: з 48 дэпутатаў ад Мінска за Старшыню Савета Міністраў падпісалася 22 чалавекі, з 53 ад Мінскай вобласці — 27, з 44 ад Магілёўскай — 27, з 56 ад Гомельскай — 37, з 44 ад Гродзенскай — 30, з 51 ад Віцебскай — 30, з 49 ад Брэсцкай — 32.

Трэба зазначыць, што яшчэ адзін прэтэндэнт на вылучэнне кандыдатам у прэзідэнты — Генадзь Карпенка — таксама сабраў дастатковую колькасць галасоў ад дэпутацкага корпуса. Пад час праверкі падпісных лістоў Цэнтрвыбаркаму трэба будзе праверыць, ці не падпісаўся хтосьці з парламентарыяў за абодвух вылучэнцаў адразу, што супярэчыць закону. На думку ініцыятыўнай групы з каманды В.Кебіча, гэта малаверагодна, бо ў ходзе збору подпісаў прад'яўляліся высокія патрабаванні да якасці дакументаў, якія прадстаўлены ў Цэнтральную выбарчую камісію.

На каварнае пытанне журналістаў, ці атрымлівалі зборшчыкі подпісаў матэрыяльную ўзнагароду за сваю работу, члены ініцыятыўнай групы адказалі, што не, іх дзейнасць была заснавана выключна на ўнутраных памкненнях. Але Аляксандр Санчукоўскі дадаў, што, у прынцыпе, не выключае, калі такое заахвочванне можа быць па выніках выбараў. Група падтрымкі Вячаслава Кебіча ў гэткім жа складзе мае намер весці агітацыю за свайго кандыдата да канца.

Можна зразумець насцярожанасць і шматлікія сумненні ў грамадстве, якое ўжо мала каму і мала чаму верыць. Таму невыпадкова пішучая брація дапытвалася, як ставяцца члены ініцыятыўнай групы прэм'ер-міністра да таго, каб за падвядзеннем вынікаў выбараў сачылі замежныя назіральнікі. Такая верагоднасць бачыцца прыхільнікам Вячаслава Кебіча зусім нармальнай. Тым больш, Закон аб выбарах Прэзідэнта дапускае гэта.

### Згадка пра будучыню?

□ **Якаў ЯСЭПКІН , "ЧЗ"**

*Як вядома, у нядзелю на Беларусі завяршыўся чарговы этап прэзідэнцкай выбарчай кампаніі. Хаця да афіцыйнага абвяшчэння яго вынікаў усім нам прыйдзецца крыху пачакаць (бо цяпер ідзе праверка падпісных лістоў), карціна раскладу палітычных сіл пачынае праясняцца. У штаб–кватэры БНФ адбылася прэс–канферэнцыя прэтэндэнтаў на прэзідэнцкую пасаду лідэра Беларускага Народнага Фронта Зянона ПАЗЬНЯКА.*

Гэта падзея супала з іншай акцыяй — сакратарыят Управы БНФ прыняў заяву, дзе коратка выкладзена пазіцыя гэтай арганізацыі ў сучасных варунках. Але аб яе сутнасці — ніжэй. Трэба зазначыць, сустрэча прадстаўнікоў кіраўніцтва Фронта і, галоўнае, яго Старшыні з журналістамі, выкарыстоўваючы мову газетных справаздач, атрымалася "цікавай". Як сенсацыйнае можна расцаніць сцвярджэнне З.Пазьняка:"Мы не сумняваемся, што выйграем прэзідэнцкую кампанію". Цытата дня. Увогуле, на канферэнцыі было што паслухаць, аб чым памеркаваць.

Хаця Сойм БНФ паслядоўна выступаў супраць увядзення прэзідэнцкай пасады ў рэспубліцы, пасля вядомага парламенцкага рашэння яго актывісты ўтварылі ініцыятыўную групу і ва ўстаноўленыя Цэнтрвыбаркамам тэрміны правялі "падпісную кампанію" на карысць свайго вылучэнца. Праходзіла яна згодна з "літарай закону"— наведвалі кватэры, выязджалі ў райцэнтры, вёскі і мястэчкі, працавалі і пікеты ў буйных гарадах. Вынікі даволі ўнушальныя — сабрана (паводле арганізатараў брыфінгу) каля 230 тысяч подпісаў у падтрымку Пазьняка. Прычым, у шэрагу прамысловых цэнтраў (напрыклад, у Брэсце, Баранавічах, Навалукомлі, Лідзе, Слоніме і інш.) групы падтрымкі кандыдата БНФ выйшлі на першыя пазіцыі. У беларускай сталіцы Пазьняк заручыўся падтрымкай 91.000 прыхільнікаў. І гэта, падкрэслівалася ў ходзе размовы з журналістамі, нягледзячы на пэўнае процідзеянне мясцовых улад, якія дзе-нідзе выкарыстоўвалі не занадта цывілізаваныя прыёмы барацьбы. Нельга не пагадзіцца з адным: народ пабачыў канкурэнцыю структур, і многія прынялі ў ёй удзел. Другое (пасля Вячаслава Кебіча) месца на прамежкавым фінішы прэзідэнцкай гонкі — безумоўны поспех.

Далейшы шлях будзе куды больш складаны і больш цяжкі, але "званок уладам" прагучаў. Ім ёсць над чым паразважаць, беручы ў разлік і той факт, што дэмакратычная частка палітычнага спектра (асабліва пасля абвяшчэння вынікаў Цэнтрвыбаркамам) будзе выглядаць для іх яшчэ больш пагрозліва. Дарэчы, пра памянутую вышэй заяву. У ёй, у прыватнасці, зазначаецца:"Наш прэтэндэнт набраў найбольшую колькасць подпісаў сярод тых, хто пры зборы подпісаў не выкарыстоўваў дзяржаўны апарат. Гэта сведчыць аб тым, што Зянон Пазьняк — найбольш рэальны прэтэндэнт на пасаду Прэзідэнта сярод палітыкаў дэмакратычнай арыентацыі. Народны Фронт выступае за адзінства дэмакратычных сіл на прэзідэнцкіх выбарах". Падкрэсліўшы, што палітыкі-дэмакраты, якія набралі дастатковую колькасць подпісаў, засведчылі свой аўтарытэт і правы на неад'емнае месца ў палітычным жыцці Беларусі, кіраўніцтва Фронту заклікала "тых шаноўных прэтэндэнтаў, якія залічваюць сябе да дэмакратычных, а таксама іхнія каманды, разгледзець магчымасць зняцця сваіх кандыдатур на карысць кандыдатуры найбольш рэальнага прэтэндэнта". Вельмі праблематычнае (для іншых прэтэндэнтаў) меркаванне і наўрад ці рэальнае. Аднак, нельга адмовіць яго аўтарам у логіцы і дыпламатычным гусце. Пры лагічна і тактоўна пабудаванай кампаніі надалей у "каманды апазіцыянераў" шанцы могуць нават узрасці. Што за слоўным фасадам — справа другарадная, і аб тым народ пачне задумвацца толькі пасля...

Пакуль можна канстатаваць наступнае: лідэр БНФ ведае, чаго жадае. І не вагаецца ў планах і ацэнках. Праграмныя распрацоўкі будуць абнародаваны пазней, а што такі выхад з "інфармацыйнай блакады" (паводле Зянона Пазьняка) стане явай пасля паяўлення рэгістрацыйнага штэмпеля ў ягоным "прэтэндэнцкім пасведчанні" — рэч бясспрэчная. Аднак і цяпер ён дастаткова канкрэтна ставіцца да злабадзённых пытанняў. Аб'яднанне грашовых сістэм Расіі і Беларусі Пазьняк лічыць "крымінальнай з'явай, якая не мае гістарычнай перспектывы, а будучы ўрад (калі яго сфарміруе апазіцыя) стане ўрадам спецыялістаў. А вось нежаданне афіцыйных органаў улады прымаць назіральнікаў з-за мяжы, на яго думку, з'яўляецца сведчаннем яе недэмакратычнасці. Хаця, у чым запэўнілі журналістаў, БНФ выкарыстае ўвесь свой міжнародны аўтарытэт і сувязі, каб "зняць"інфармацыйны вакуум. Своеасабліва ацэньваюцца і магчымыя канкурэнты. Так, адказваючы на пытанне аб адносінах да Кебіча і Лукашэнкі, Пазьняк вобразна заўважыў, што "няважна, як гарэць у печы — з галавы ці з ног". Такую катэгарычнасць растлумачыў тым, што ў абодвух выпадках справа ідзе аб страце свабоды.

У цэлым, не ўдаючыся ў спрэчнасць слоўнай рыторыкі і палемічных выказванняў, трэба прызнаць: Зянон Пазьняк нябдлага разумее, што такое палітычны імідж. Сабранасць, падкрэсленая ўпэўненасць "галоўнага апазіцыянера" ўражваюць. Западае ў памяць і прадказанне аб выйгрышы. Што гэта — гульня на публіку, мроя, згадка пра будучыню? Прыспее час — даведаемся.

## ДЗЕВЯТАЕ НЕБА



Дзяжурны па выпуску — Я. ЯСЭПКІН.

**"Суперчэннэл"**

### ЧАКАЙ, БАГДАД

*Працягваюць дзейнічаць санкцыі, уведзеныя ЗША ў адносінах да Ірака. Хаця Багдад неаднойчы заяўляў аб неабходнасці іх адмены, пакуль што Злучаныя Штаты, здаецца, не збіраюцца мяняць сваю пазіцыю.*

Інфармаваныя крыніцы ў вашынгтонскай адміністрацыі паведамляюць, што афіцыйныя ўлады не бачаць магчымасці адмены санкцый да канца года.

### ЯПОНЦЫ ПРАПАНОЎВАЮЦЬ НАВІНКУ...

*У Японіі распрацаваны трохступеньчаты тэхналагічны працэс спалення адходаў з высокім утрыманнем вільгаці.*

Вільготныя адходы змяльчаюцца і награюцца да тэмпературы 160—180° С у ванне з соевым алеем на працягу 10 хвілін, што прыводзіць да выдалення з іх 99 працэнтаў вільгаці, потым спальваюцца пры тэмпературы 950° С, а пасля рэшткі падаюцца ў другую камеру, у якой падтрымліваецца тэмпература каля 1200° С.

**"Уорлднэт"**

### ...ФРАНЦУЗЫ Ж БАРОНЯЦЦА... АД РЫНКУ

*З дапамогай асацыяцый спажыўцоў французы штогод выйграюць тысячы судовых працэсаў. 20 буйнейшых спажывецкіх асацыяцый, якія з'яўляюцца членамі нацыянальнага савета па спажыванню, займаюцца вывучэннем тавараў і паслуг як дзяржаўнага, так і прыватнага сектараў.*

Усе яны выступаюць у ролі пасрэднікаў паміж сваімі суайчыннікамі і рынкам. Многія з іх створаны на аснове прафсаюзных і жаночых арганізацый. А працуюць гэтыя асацыяцыі ў цесным кантакце з Федэральным саюзам спажыўцоў і Федэрацыяй французскіх сем'яў.

### СЕКТАР ГАЗА ПАКІНУЎ АПОШНІ ІЗРАІЛЬСКІ САЛДАТ

*Пасля 27–гадовай акупацыі апошні ізраільскі салдат пакінуў тэрыторыю Сектара Газа. Вывад армейскіх злучэнняў адбыўся ў адпаведнасці з заключанымі мірнымі пагадненнямі паміж Ізраілем і АВП.*

Мясцовае арабскае насельніцтва "праводзіла" ізраільцян камянямі і бутэлькамі. Салдаты праявілі стрыманасць і толькі ў выпадку неабходнай абароны абстралялі дэманстрантаў гранатамі са слезатачывым газам. Тэль-Авіў заявіў, што і надалей будзе абараняць інтарэсы і правы яўрэйскіх пасяленцаў на палесцінскіх землях.

**"Еўраньюс"**

### УЦЕКАЧЫ АД ІНФЛЯЦЫІ

*Дзесяткі тысяч людзей у Бразіліі вымушаны займацца рабскай фізічнай працай. Гэта вынікае з дакумента, які апублікавала Міжнародная праваахоўная арганізацыя па барацьбе з рабствам.*

Прадстаўнікі міністэрства працоўнай занятасці Бразіліі прызнаюць, што сітуацыя ў сферы наёмнай працы за апошнія гады рэзка пагоршылася. Пры інфляцыі, якая складае прыкладна сорак працэнтаў у год, многія літаральна гатовы пайсці на ўсё, каб знайсці работу. У пастку трапляюць часцей за іншых тыя, хто наймаецца да фермераў, уладальнікаў жывёлагадоўчых гаспадарак і на высечку лесу.

**"TV-5"**

### ПОСТСАВЕЦКІ СІНДРОМ?

*Дасягнуць міжнароднага прызнання Квебека, калі ён абвесціць сябе незалежным, — асноўная мэта замежнай паездкі лідэра партыі квебекскі блок Люсьена Бушара.*

Ён прыбыў у Францыю, дзе запланаваны сустрэчы з міністрам замежных спраў Аленам Жупэ, старшынёй Нацыянальнага сходу Філіпам Сегэнам, старшынёй сената Рэнэ Манары і з самім прэзідэнтам Франсуа Мітэранам. Далейшы шлях Бушара — у Бельгію.


(Працяг на 3-й стар.).


ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"

